# БЕЛАРУС

№443 • Сакавік-красавік 1997 г.
Год выд. 46

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00


## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

### Любасныя ў Госпаду пастыры, шаноўнае манаства і ўсе багалюбныя вернікі сьвятой Беларусі

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

*«Праглынута сьмерць перамогаю» (1Кар. 15:54)*

Дарагія й любыя мае Браты й Сёстры!

Сёньня ўсе мы сьвяткуем сьвята перамогі сьвятла над цемрай, сьвята адраджэньня жыцьця. Канчатковая перамога Госпада нашага Ісуса Хрыста над сьмерцяй дае і нам перамогу. «Я ёсьць уваскрасеньне й жыцьцё» (Ян 11:25), кажа Госпад. Уваскраслы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыць і дае запэўненьне, што сьмерць — не апошняе слова. Мы радасна ўсклікаем разам з апосталам Паўлам: «Сьмерць! Дзе тваё джала? Пекла! Дзе твая перамога?» (1Кар. 15:55). Сьв. апостал Павал прамаўляе да ўсіх пакаленьняў словамі: «Калі Бог за нас, дык што супраць нас!» (Рым. 8:31). Перад Сваім укрыжаваньнем Госпад хадзіў паміж народам — кніжнікамі, фарысеямі і звычайнымі людзьмі — як Чалавек. Ён навучаў людзей прыповесьцямі. А сёньня мы бачым сілу славы ў Ягоным уваскрасеньні. Як магчыма словам выказаць, як розумам ахапіць значэньне сілы Божай? А добра ведаць значэньне яе. Сіла самаіснаваньня, сіла тварэньня, сіла вытрываласьці, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа дабравесьнік Ян, — гэта вера наша» (1Ян 5:4). І сапраўды праз Хрыста і веру ў Яго Бог паслаў нам перамогу, перамогу над усім. Сёньня сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, мы, умацаваныя ў веры нашай, адзначаем падзеі, што закранаюць у жыцьці кожнага з нас.

Дарагія Браты й Сёстры! Сьвяткуючы ўваскрасеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста, мы жывём таксама ў пярэдадні усяцэлага ўваскрасеньня нашага Беларускага Народу. Бо так як Ісус Хрыстос прайшоў праз зьдзек і быў бязь віны засуджаны ўладамі гэтага сьвету на сьмерць праз укрыжаваньне, гэтак і наш народ уладамі гэтага сьвету зьняволены. Дзеля гэтага ня трэба кідацца ў роспач, але наадварот яшчэ мацней трэба трымаць свае шэрагі й рашуча ісьці да свае мэты, каб у нашай краіне, Сьвятой Беларусі, уладарылі ня здраднікі, а тыя, хто любіць Беларусь. Незадоўга да сваёй сьмерць першы ізраільскі прэзыдэнт сказаў: «Пачаўшы зь нічога, я, Хаім Вайцман, габрэй з Моталя й толькі амаль што прафэсар правінцыяльнага ўнівэрсытэту, зарганізаваў кветку габрэйства на карысьць вялікага посьпеху». Гэта быў вынік ягонай вялікай веры й нястомнай сталай працы.

А нам дарагія браты й сёстры, не пачынаць, а прадаўжаць працу вызваленьня, каб кожны з нас мог сказаць: мы, беларусы аднавілі сваю прыгожую кветку, Сьвятую Беларусь. У веры ў Бога і ў свой народ, габрэі вытрымалі два тысячагодзьдзі. Так і наш народ глыбака ў сэрцы сваім перахоўвае дух свабодны, веру ў Хрыста і веру ў сваё ўваскрасеньне. Ворагі нішчылі наш народ фізычна, вырывалі зь яго сьвядомасьць беларускую, але народ памятаў словы Госпадавы: «Праўда вызваліць вас». Кожнага году на Вялікдзень па ўсей Беларусі людзі віталі адзін аднаго: словамі «Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Ўваскрос!» І мы дачакаліся ласкі Божае: народ наш адраджаецца і ўваскресеньне ягонае нямінучае. Абудзіўся свабодны дух і ўмацавалася вера ў Госпада Ісуса Хрыста, бо-ж Ён уваскрос! Дарагія мае, уваскрэсьне і наша сьвятая Беларусь, уваскрэсьне сьвятая Беларуская Праваслаўная Царква, у якой наш народ на сваёй сьвятой беларускай мове будзе славіць Усемагутнага Бога і ўсіх сьвятых. Вітайма-ж адзін аднага ў дзень сёняшні словамі радасьці й перамогі: «Хрыстос Уваскрос!» І разам зь незабыўным Сяргеем Палуянам вітайма ўвесь народ свой: «Зь вялікім сьвятам віншую Цабе! Зь вялікім сьвятам, вялікі несьмяротны Беларускі Народзе!»

ХРЫСТОС УВАСКРОС! — САПРАЎДЫ АЖЫЎ!

*Вялікдзень 1997 г.*
*Таронта, Канада*

З ласкі Божай пакорны МІКАЛАЙ,
Архіяпіскап і Першы Ярарх
Беларускай Аўтакефальнай
Праваслаўнай Царквы




## МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ...

На Беларусі расейская акупацыя замацоўваецца. Адбываецца гэта па імпэрскіх правілах, распрацаваных яшчэ расейскімі царамі, а да сёньняшняга часу дапасаванымі ўрадамі Гайдара і інш. У выкананьне пляну прыцягнутыя расейскія службы ФСК-КДБ, мафіёзныя кланы ды знойдзеныя ў Беларусі рэнэгаты, асобы з камуністычнае наменклятуры. Шлюзы расейскім адміністратарам-разьведчыкам на Беларусь шырака адчыніў былы прэм'ер міністр рэспублікі — Кебіч.

Напачатку акупацыя Беларусі ажыцяўлялася праз штучна ствараныя расейска-беларускія эканамічныя структуры, пры дапамозе энэргетычнага шантажу, прыцягненьне ў Беларусь расейскіх «спэцыялістаў», стварэньне ўмоваў для дамінацыі расейскае валюты і г.д. У 1994 годзе расейскія спэцслужбы прывялі да ўлады «свайго чалавека» былога агента КДВ — А. Лукашэнку, прадумана выкарыстаўшы эканамічную сытуацыю, калгасна-сялянскую псыхалёгію беларуса ды палітычную абмежаванасьць вялікай масы былых савецкіх грамадзянаў. З таго часу акупацыя Беларусі праводзіцца больш брутальна, але сыстэматычна цьвёрда. Зачыняюцца беларускія школы, выданьні, выкідаецца-зьневажаецца беларуская мова, прадаецца-аддаецца Расеі беларуская эканоміка і натуральныя багацьці. Адбываецца гэта найперш згодна з тайным дакумэнтам, датаваным жніўнем 1995 году ды падпісаным Б. Ельцыным аб палітыцы Расеі ў СНД, дзе сьцьвярджалася, што Расея павінна дамінаваць у палітыцы СНД ды падпарадкаваць

*(Працяг на бал. 2)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ...

*(Працяг з бал. 1)*

сабе незалежныя краіны, якія вызваліліся з былога СССР. Далей у дакумэнце выказваюцца працоўныя пляны для далейшае «інтэграцыі» ды цэнтральнай ролі Масквы ў межах былога Савецкага Саюзу. Прыгэтым асаблівая ўвага павінна быць зьвернутая на Беларусь і Украіну. З гэтым дакумэнтам я азнаёміўся таксама, а ў цэлым дакумэнт можна азначыць як ельцынаўскую дактрыну акупацыі Беларусі.

Ад таго-ж часу, ад 1995 году акупацыя Беларусі ідзе вельмі прысьпешана. Дапамагае гэтаму асабліва А. Лукашэнка, які ліквідуе ўсе адзнакі беларускае дзяржавы, вядзе вайну з апазыцыяй ды, праз ліквідацыю рэспублікі Беларусь, мае мару узыйсьці на расейскі прастол. Пляны Лукашэнкі і расейскіх палітыкаў — зьліквідаваць Беларусь ў 1996 годзе — не зьдзейсьніліся выключна таму, што на Беларусі паднялася апазыцыя: Беларускі Народны Фронт, масы беларускае моладзі і нацыянальна сьведамага грамадзтва перашкодзілі маскоўска-лукашэнкаўскім плянам. Ад часу, калі летась быў падпісаны ганебны лукашэнкаўска-ельцынскі дакумэнт, дакумент не канстытуцыйны, нелегальны, аб злучэньні Беларусі з Расеяй узьняўся апазыцыйны шквал — пачалася цяжкая, у вялікай меры, няроўная барацьба. Барацьба за захаваньне беларускае дзяржаўнасьці. З лукашэнкаўскага боку былі падрыхтаваныя пляны ліквідацыі дзяржаўнасьці, уніфікацыя беларускай эканамічнай структуры з Расеяй ды зьнішчэньне асноўных праяваў беларускасьці, пляны штадня падмацоўваныя сіламі АМОНу, а з другога боку выступіла нацыянальная апазыцыя, якая завойстрыла ўвагу як Беларусі гэтак і вонкавага сьвету на плянаванае злачынства, незаконнасьць. Але ня гледзячы на супраціў расейскае акупацыя замацоўваецца. У бліжэйшым пляне — сыстэма аднае валюты. На 1997 год заплянаваны расейска-беларускі рэфэрэндум, пасьля якога, практычна, Беларусь зьліквідуецца як дзяржава. Прыгэтым, як выглядае з цьмяных фармуліровак лукашэнкаўска-ельцынскага пагадненьня, Беларусь можа зьнікнуць разам з народам. Будзе выкарыстаная міграцыя, сумесныя рэформы і г.д. З студзеня сёлета пачаўся «паглыблены» працэс «інтэграцыі». Расейскія палітыкі бессаромна заяўляюць, аб выкарыстаньні беларускае прымасловацьці для патрэбаў Расеі.

Расейскаму сёньняшняму кіраўніцтву справа прадстаўляецца ясна:

*(Працяг на бал. 8)*

## АКТУАЛІЯ БЕЛАРУСКАЕ СУПОЛЬНАСЬЦІ

Падпісанае Лукашэнкам і Ельцыным 2 красавіка сёлета Пагадненьне пра ўтварэньне Саюзу Беларусі і Расеі як дакумэнт легітымны мае вартасьць ня большую, чым новая Лукашэнкаўская Канстытуцыя. Таму разбор прававаых аспэктаў яго можна пакінуць новаму Старшыні Канстытуцыйнага суду Рыгору Васілевічу, вялікаму аматару «верхавенства закона» над «верхавенствам права». Больш вартыя разгляду і асэнсаваньня ва ўсёй гэтай пабрацімскай ліхаманцы намеры і палітычная воля, што стаяць за некалькімі старонкамі тэксту і пралітай кроўю на вуліцах Менску.

Палітычная воля прэзыдэнта Ельцына існуе ў кантэксьце ня толькі яго ўласных, але перадусім расейскіх дзяржаўных інтарэсаў, а тыя, як вядома з гісторыі, кардынальна не мяняюцца са зьменай кіраўнічай асобы ці сацыяльна-эканамічнай сыстэмы. Дзяржаўныя інтарэсы Расеі традыцыйна мала залежаць ад прагматычна-эканамічных ці сацыяльных патрэбаў расейскага грамадзтва. Таму Ельцын ці любы іншы палітык Расеі будзе дзейнічаць амаль прадказальна ў дачыненьні да Беларусі, і для ўласнай палітычнай карысьці скарыстаецца толькі тэмпамі аб'яднальнага працэсу. Беларусь у гэтым гандлі, суб'ектыўнай палітычнай волі ня мае, але мае два рухавікі: аўтарытарную волю Лукашэнкі, не абцяжаранага Беларускімі дзяржаўнымі інтарэсамі, зацікаўленага праводзіць палітычную волю Расеі для задавальненья сваіх амбіцыяў і волю невялікай пакуль грамадзянскай супольнасьці цалкам адхіленую ад палітычнага кіраваньня і нават голасу. Беларусь як дзяржаўна-палітычны арганізм у працэсе ўтварэньня саюзу дзьвюх дзяржаў ёсьць аб'ектам Расейскай палітыкі, іначай кажучы — аб'ектам акупацыі. Сытуацыя гістарычна унікальная, калі дзяржава маючы ўсе атрыбуты і магчымасьці дзяржаўнасьці, ня мае дзяржаўна-палітычнае волі.

Усьвядоміўшы факт акупацыі грамадзянская супольнасьць будзе дзейнічаць сродкамі непалітычнымі, а менавіта грамадзянскім непадпарадкаваньнем, і грамадзянскім супраціўленьнем. Ня гледзячы на ўсе шаманскія заклінаньні цывільных і царкоўных праваслаўных атэістаў пра прыродную беларускую рахманасьць і кроўную еднасьць з Расеяй, гэтая старая формула спрацуе, калі толькі беларуская грамадзянская супольнасьць ня будзе зьнішчаная. Лукашэнка і яго палітычныя босы, усьведамляюць небясьпеку ўтварэньня грамадзянскага фронту супраціўленьня і спрабуюць з дапамогай дзяржаўнае машыны паралізаваць яго разьвіцьцё і пашырэньне. Нездарма сваімі апошнімі выказваньнямі Лукашэнка папярэджвае пра палкае народнае жаданьне моцнай рукі і вяртаньня «сталінскіх часоў».

Утварэньне аднак у бліжэйшым часе адзінага нацыянальнага фронту супраціўленьня выглядае сумніўна з прычыны менавіта эмацыйнага непрыняцьця часткаю апазыцыі ідэі нацыянальнай дзяржаўнасьці, якую яны персаніфікуюць ў асобе лідэра БНФ Пазьняка і адсутнасьці ў іх сыстэматызаванай альтэрнатыўнай ідэі. Калі гэткай прымітывізацыі падупадае найбольш адукаваная частка грамадзтва, дык чаго чакаць ад «электарату»! Яму патрэбныя простыя рэцэпты формулы. Электарат ня будзе змагацца ані супроць Лукашэнкі, ані за яго. Электарат будзе выкарыстоўвацца дэмакратычнымі мэтадамі (галасаваньне, рэфэрэндум) любым рэжымам і дыктатарам незалежна ад яго ідэялягічных установак, пакуль з гэтага электарату не пачне нараджацца грамадзянская супольнасьць са сваімі асэнсаванымі прынцыпамі, мэтамі ды ідэаламі. Сярэдняму амэрыканцу цяжка нават уявіць, што які-небудзь чарговы прэзыдэнт, незалежна ад партыйнай прыналежнасьці, сваім жаданьнем мог-бы кардынальна перавярнуць амэрыканскую зьнешнюю ці ўнутраную палітыку. Адна з падставаў амэрыканскай дзяржаўнай стабільнасьці — гэта здольнасьць людзей рабіць і адстойваць свой асэнсаваны грамадзкі выбар. Беларусы ў масе баяцца несьці за сябе поўную адказнасьць, але згодныя цяжка працаваць, абы думаў і адказваў за іх нехта іншы. Цікавыя ў гэтым кантэксьце некаторыя папулярныя ў народзе міфы. З аднога боку сярэдні беларус упэўнэны і ганарыцца тым, што лепш і больш за іншых працаваў сярод народаў былога Савецкага Саюзу (міф пра высокакваліфікаваную рабочую сілу). З іншага боку сярэдні беларус упэўнены, што самастойна з пладоў сваёй працы не пражыве (міф пра немагчымасьць існаваньня без прыродных рэсурсаў!) Як гэтыя два міфа могуць безканфліктна ўмяшчацца ў адной сярэднестатыстычнай галаве дакладна ведома хіба сп. Замяталіну. Таму Лукашэнка трымаецца ня толькі на сіле зброі (АМОН, міліцыя), але і на плыні няспыннай прапаганды, якая ўжо ў ведамствах згаданага палкоўніка інфармацыі Замяталіна і на самым пачатку згаданага палкоўніка правасудзьдзя Васілевіча.

Нацыяльна-дзяржаўная ідэя — гэта адзіная ідэя зь якой яны змагаюцца адзіным фронтам. Дык, адпаведна, таяж нацыянальна-дзяржаўная ідэя павінна быць і аб'яднаўчым фактарам беларускай грамадзянскай супольнасьці.

**Алеся Сёмуха**

## ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЯЎ

1 сакавіка маладзёжнае аб'яднаньне анархістаў «Чырвоны Жонд» адзначыла на плошчах Свабоды і Парыжскай камуны 116-ю гадавіну з дня забойства цара Аляксандра II беларускім рэвалюцыянэрам-народавольцам Ігнатам Грынявіцкім.

6 сакавіка Лукашэнка сваім дэкрэтам увёў жорсткія абмежаваньні на правядзеньне вулічных акцый. За выкарыстаньне «незарэгістраванай» сымболікі ўдзельнік дэманстрацыі можа быць аштрафаваны на суму ад 10 да 100 мінімальных зарплат альбо пасаджаны за краты на тэрмін ад 3-х да 15-ці сутак.

У ноч на 7 сакавіка маладзёжны патрыятычны рух «Народны супраціў» правёў акцыю пад назвай «Горад — наш!» Сотня бел-чырвона-белых сьцягоў была вывешаная ў розных раёнах Менску, у тым ліку над стадыёнам «Дынама», над інтэрнатамі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту і Тэхналягічнага інстытуту.

11-12 сакавіка ў Менску прайшла трэйцяя сэсыя міжпарляманцкага сходу Супольнасьці Беларусі і Расеі. Для ўдзелу ў сэсыі з Масквы «завіталі» камуністычныя лідэры Ягор Строеў, Сяргей Бабурын, мэр Масквы Юрый Лужкоў.

14 сакавіка ў Менску за удзел у акцыі «Беларусь у Еўропу-2» былі арыштаваныя паўтары сотні маладых людзей, народныя дэпутаты, журналісты і замежныя грамадзяне, сярод іх два грамадзяніны ЗША. Злучаныя Штаты заявілі пра ўвядзеньне палітыкі «абмежаваных кантактаў» у дачыненьні да Беларусі.

15 сакавіка апазыцыя правяла шэсьце і мітынг, прысьвечаны трэцім ўгодкам Канстытуцыі 1994 году. Дзень Канстытуцыі быў адзначаны дэманстрацыямі і арыштамі ў Магілёве, Гомелі, Віцебску і Горадні.

З 23 да 25 сакавіка па ўсіх абласных гарадох і сталіцы прайшлі мітынгі і дэманстрацыі ў гонар 79-х ўгодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. На амонаўскія дубінкі дэманстранты адказвалі палкамі, бутэлькамі і камянямі. Сродкі масавай інфармацыі паведамілі пра 12 параненых міліцыянтаў.

2 красавіка ў знак пратэсту супроць прыезду ў Беларусь расейскай дэлегацыі для падпісаньня дакумэнтаў аб ўтварэньні Саюзу Беларусі і Расеі, тысячы дэманстрантаў сабраліся каля Опэрнага Тэатру, частка накіравалася да Расейскага пасольства пад лёзунгам «Абаронім наш дом». У адказ на дзеяньні АМОНа блякаваць падыход да пасольства, дэманстранты паўтарылі мэтады арганізаванага сілавога супраціўленьня.

5 красавіка ў Нью Ёрку адбылася дэманстрацыя пратэсту супраць падпісаньня пакту аб аб'яднаньні ў адну дзяржаўную супольнасьць Рэспублікі Беларусь і Расеі. Дэманстрацыя адбывалася каля сядзібаў прадстаўніцтваў Расеі і Беларусі пры ААН. Ладзілі дэманстрацыю БАЗА і прадстаўнікі БНФ у Нью Ёрку.

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры*

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

У Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры старанямі Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня Мастакоў адчынілася ў нядзелю 16 сакавіка 24-я гадавая мастацкая выстаўка. На ёй былі паказаныя творы прафэсіяналаў і аматараў, тых, што жывуць у Амэрыцы і па-за ёй. У паказе сваіх твораў — абразоў, рысункаў, іконаў, фатаграфіяў і інш — узялі ўдзел (паводле праграмкі): Сьвятлана Арцішэўская, а. Дзімітры Башко, В. Дэмкіна, М. Будавец, С. Чыгіровіч, І. Рагалевіч-Дутко, Мікалай Дутко, З. Літвінава, Людміла К.М., Алег Махнюк, Ала Масіенка, В. Паўлавец, Галіна Русак, Алекс Сільвановіч, А. Скараход, Тамара Стагановіч, Ст. Тамара, Вадзім Сугойдзь, Івонка Сурвілла,



*Ліда Літаровіч працуе...*
*Фота А. Сільвановіча*

Паўлінка Сурвілла, Вадзім Удавенка, Надзя Запруднік, а таксама маладыя пачынальнікі: Тамара Дутко, Адам Грант і Кіра Грант. Былі паказаны таксама розныя мастацкія вырабы, у тым ліку вырабы з саломкі, разьба па дрэве, тканіны, вышыўка ды кніжныя выданьні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Вокладкі гэтых апошніх афармляла Ірэна Рагалевіч-Дутко. Сп-ня Люда Літаровіч дэманстравала спосаб дэкараваньня вялікодных пісанак, якія можна было набыць.

Вялікую грамаду наведнікаў прывітала, адчыняючы выстаўку, кіраўнічка сп-ня Ірэна Рагалевіч-Дутко. Яна прадставіла аўдыторыі прысутных мастакоў, падзякавала тым, хто браў удзел у падрыхтоўцы выстаўкі, у тым ліку студэнтам Сержу Трыгубовічу і Хведару Палюховічу за удзел падрыхтове выстаўкі. Сп-ня Дутко прывітала матушку Ірыну Башко з Чыкага, якая прывезла на выстаўку прыгожа выкананыя а. Дзімітрыем Башком іконы, ды заклікала прысутных ня толькі аглядаць эспанаты, але й набываць іх. Сп. Янка Запруднік паінфармаваў, што да 25-е выстаўкі рыхтуецца выданьне юбілейнага альбому, у якім будуць сабраныя матар'ялы пра ўсе 25 выставак, пра ейных арганізатараў і ўдзельнікаў, пра водгукі на гэтыя паказы мастацтва і беларусікі, а таксама пра выдатны асяродак беларускага жыцьця, які на працягу даўгога часу зьяўляецца горад Саўт-Рывэр.

**Я.З.**

## АХВЯРА ЧАРНОБЫЛЯ

4-га і 11-га лютага сёлета ангельская тэлевізія (ITV) паказвала два даўгія дакумэнтальныя фільмы аб беларускім хлопчыку Ігару Паўлоўскім, які нарадзіўся толькі з левай рукой і неразьвітымі кароценькімі ножкамі, на якіх няма ўсіх пальцаў. Бедны хлопчык — ахвяра Чарнобыля.

Бацькі ад яго адмовіліся і пакінулі ў сероцінцу.

У Англію Ігар прыехаў колькі гадоў таму на лячэньне. Ангельская сям'я, Барбара і Рой Бэннэтт, узялі яго пад сваю апеку. Апякуюцца як сваім родным сынам, а можа яшчэ й лепей. Возяць яго на адпачынак на мора. Возяць ў школу, у дзіцячыя лягеры. Стараліся зрабіць пратэзныя боцікі на ногі (нажаль бяз посьпеху). Стараліся далучыць штучную правую руку з электрычным праўленьнем (і зноў бяз посьпеху). Цяпер Ігару ужо дзесяць гадоў і ён сьведамы свайго калецтва.

Ігар прызвычаіўся да новага жыцьця ў Англіі, да сваіх новых бацькоў. Барбару называе мамай. Добра гаварыць па-ангельску і лічыць сябе ангельцам. Хоча называцца Майкл Бэннэтт. Паміма страшнага калецтва ён разумны і вельмі рухлівы хлопчык.

У другой частцы фільму паказалі прыезд зь Менску доктара і мэдсястры Ліліі, якая апекавалася Ігарам у Менску. Лілія жанчына добрага, чулага сэрца. Зрабіла тэстамэнт, у якім сваё памешканьне ў Менску запісала на Ігара. Прывезла падарункі — расейскія кніжкі, касэткі. Гаварыла да Ігара толькі па-расейску. А калі ўбачыла, што Ігар забыўся расейскую мову, альбо ня хоча ею гаварыць, пачала яго вучыць гэтую мову.

Паміж Ліляй і Ігарам дайшло да канфлікту і ў канцы Ігар са злосьцю ўцякае ад Ліліі. Гэтая сцэнка ў фільме вельмі сумная, прыкрая. Шкада было Ігара, шкада было Ліліі. Хто ва ўсім гэтым вінаваты?

Цікавыя фільмы, якія варта было-б паказаць у Беларусі.

**М. Швэдзюк**

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе за прысланыя інфармацыі і газэтныя выразкі: К. Акулу, І. і Я. Сурвіллам, др. Ю. Кіпелю, др-у і В. Рамукам, Г. Шэйпаку, Б. Даніловічу, Ю. Найдзюк, М. Швэдзюку, А. Лашуку, К. Вераб'ю, А. Кіпель, Р. Завістовічу, А. Марковічу, З. Пазьняку, С. Трыгубовічу, А. Міцкевічу, Б. Рагулю, В. Хмялеўскаму, К. Валошыну, Л. Шыманцу, М. Латушкіну, В. Трэмбіцкаму, В. Акавітаму, А. Мацукевічу, В. Цару, Л. Шураку, Ю. Азарку, К. Шаткову, Л. Камянку, А. Акулічу.

## ЗВАРОТ АРГКАМІТЭТУ ДРУГОЙ СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ СЬВЕТУ

21-25 ліпеня 1997 году ў Вільні мае адбыцца 2-гі зьезд беларускае моладзі сьвету.

У Беларусі, а таксама ў Вільні створаныя й працуюць арганізацыйныя камітэты па падрыхтоўцы гэтага форуму моладзі. У сувязі з палітычным становішчам ў Рэспубліцы Беларусь месцам правядзеньня 2-ой Сустрэчы моладзі сьвету абраная Вільня.

На сустрэчы плянуецца ўсебакова абмеркаваць палітычнае становішча ў Беларусі, магчымы ўдзел моладзі ў захаваньні дзяржаўнага суверэнітэту, нацыянальных каштоўнасьцяў ды гістарычнай спадчыны, а таксама прыняць рашэньне аб стварэньні Саюзу беларускай молдазі сьвету.

## З АРХІВУ...

Паважаная рэдакцыя газэты «Беларус»! Прашу зьмясьціць у газэце, цяпер ужо і рэдкі здымак — апошні навучальны год у Вільні (1938-1939ы), група сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу. На колькі памятаю здымак ніколі не быў у друку.

Як прыпамінаю на фатаграфіі праф. Э. Кашмідар, трох старшыняў Саюзу, д-р Мікола Шчорс, інж. Адам Дасюкевіч, растраляны немцамі, і д-р Усевалад Кароль, адседзеў 10 гадоў у бальшавіцкіх конлягерах (аб ім успамінае ў сваёй кніжцы ксёндз Язэп Германовіч на стар. 194).

Іншых сяброў, магчыма, на фатаграфіі прыпомняць вашыя супрацоўнікі ў Нью Ёрку.

**З пашанай**
**Ванда М.**



*З нагоды ад'езду праф. Эрвіна Кашмідара...*

## ЛІСТ АБ ПОШУКАХ

Шаноўная рэдакцыя! Зьвяртаюся да Вас з просьбай дапамагчы мне ў пошуках дваюраднага брата мае маці. Мая мама жыве цяпер у Горадні. Жыла нскалі ў Горадні і я, дзе закончыла сярэднюю школу ў 1957 годзе. У школе добра вывучыла беларускую мову, але з часам шмат забыла, асабліва з граматыкі, дык выбачайце за памылкі. Цяпер я жыву ў Аўстраліі. Добрыя людзі далі мне Вашу газэту і я адразу вырашыла напісаць у газэту ліст. Я аплачу патрэбную суму за друк (адрас далучаю).

Вось дадзеныя аб шуканай асобе. Анатоль Генадзевіч Сакалоў, 1915 году нараджэньня. Ягоная маці, Алена Кірылаўна Сакалова-Лекант была настаўніцай беларускае мовы ў Беларускай Гімназіі ў Вільні. Бацька Анатоля з сям'ёй ня жыў. Анатоль жыў з айчымам. Айчым, Лекант Лаўрэцявіч быў казначэям Віленскае Кансысторыі.

Анатоль Сакалоў скончыў Беларускую Гімназію і паступіў вучыцца на юрыдычны факультэт у Віленскі унівэрсытэт. У 1938 годзе ён вывучаў юрыспрудэнцыю ў Варшаве. Ягоны апошні адрас, калі ён жыў з бацькамі, быў гэткі: Вільня, вул. Астрабрамская адзінаццаць, кватэра восем. Анатоль меў брата Нікалая, але Нікалай памёр, калі яму было 17 гадоў. Анатоль быў жанаты. Разам з жонкай па вайне ён жыў у Нямеччыне. Зь Нямеччыны жонка Анатоля з сынам выехала ў Амэрыку, а Анатоля затрымалі ў Нямеччыне бо ў яго было захворваньне хрыбта, ён ня мог цьвёрда трымаць галаву. Праўда, у часе нашых пошукаў, нам з гор. Растоку (Нямеччына) паведамілі, што і Анатоль таксама эміграваў у Амэрыку. Анаталь Сокалаў сябраваў з былым дырэктарам Беларускай Гімназіі ў Вільні, Радаславам Казіміравічам Астроўскім, які таксама апошнія гады свайго жыцьця жыў у Амэрыцы. Калі хто ведае нешта аб Анатолю Сакалову буду вельмі ўдзячная, калі праз газэту мне паведаміце. Адрасы: мой і мае маці ў Горадні падаю ў рэдакцыю Беларуса.

З шчырай удзячнасьцю

**Вольга Маркава**

# САКАВІКОВЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ

## У НЬЮ ДЖЭРЗІ

Беларускія грамады й арганізацыі Нью Ёрку, Нью Джэрзі ды усходняе часткі штату Пэнсыльванія адзначалі Дзень 25 Сакавіка ў нядзелю 23 сакавіка ў горадзе Нью Брансуіку, штат Нью Джэрзі. Малебен, прысьвечаны гэтай падзеі, быў адслужаны айцом Васілём Андрэюком у царкве БАПЦ Божае Маці Жыровіцкае у прысутнасьці ганаровае варты пры вельмі вялікай колькасьці прысутных удзельнікаў сьвяткаваньня. Гэтаксама малітвай айца Андрэюка было распачатае сьвяткаваньне ў знаным, вялікім гатэлі Гаят Рыджэнсы, які знаходзіцца ўсяго у колькіх хвілінах хады ад беларускае царквы. Усьлед, уступное слова сказаў сп. Юрка Азарка, каардынатар камітэту адзначэньня 25 Сакавіка ды заступнік старшыні Галоўнае Управы БАЗА, а за ім была сказаная амэрыканская прысяга сьцягу маладзейшым прадстаўніком грамадзтва, вучням Э. Русак-Грантам. Далейшы ход урачыстасьці кіраваў сп. Віктар Тур. Былі зачытаныя праклямацыі губэрнатара штату Нью Джэрзі, спадарыні Крыстыны Тод Уітман, праклямацыі іншых урадаў і інстытуцыяў, якія адзначалі Дзень 25 Сакавіка, як беларускае нацыянальнае сьвята. Былі зачытаныя таксама прамовы-прывітаньні ад сп. Зянона Пазьняка, які ў гэным часе быў у Эўропе, ад беларускага палітычнага блёку Беларуская Пэрспэктыва, дасланага сп-няй Валентынай Трыгубовіч, сп. Сяргея Навумчыка, які цяпер знаходзіцца ў Празе ды колькіх іншых. Выступалі з прамовамі д-р Ян Запруднік, сп. Сяргей Мурог, а даўжэйшы даклад у ангельскай мове, выдатна аналізуючы палітычную сытуацыю на Беларусі ды фармулючы пагляд на крокі дзеяньня беларусаў-амэрыканцаў зачытаў маладзейшы прадстаўнік амэрыканска-беларускага грамадзтва сп. Коля Рамано. Адзначэньне Дня Беларускае Незалежнасьці было таксама ўшанаванае прадстаўніком Кангрэсу ЗША, кангрэсмэнам Франкам Пэлонам. Кангрэсмэн падцьвердзіў пункт гледжаньня як амэрыканскіх палітыкаў, гэтак і амэрыканска-беларускага грамадзства аб ненармальнасьці сучаснага стану на Беларусі, азнаёміў прысутных аб сваёй перапісцы аб сытуацыі ў Беларусі з прэзыдэнтам Клінтанам ды вытрымкамі зь лісту прэзыдэнту Клінтану у справе афіцыйнага дачыненьня ды рэжыму Лукашэнкі. Авацыяй былі ўспрынятыя прысутнымі выказваньні адміністрацыі прэзыдэнта Клінтана аб гатоўнасьці Амэрыкі дапамагаць дэмакратычным імкненьням беларускага народу, абмежаваць да мінімуму кантакты з рэжымам, адначасна імкнучыся, каб Беларусь не была ізаляваная. Прыгэтым прадстаўнікі Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі раздалі прысутным дакумэнтацыю амэрыканскага кангрэсу ў справе Беларусі. Як ведама, у падтрымку дэмакратыі на Беларусі ды ў апазыцыі да таталітарнага рэжыму Лукашэнкі выступілі некалькі амэрыканскіх заканадаўцаў, а прысутным на ўрачыстасьці беларусам з штатаў Нью Джэрзі і Нью Ёрку, было асабліва прыемна даведацца, што сэнатары Ф. Ляўтэнбэрг (Н.Дж.) і А. Дэмато (Н.Ё) выдалі адпаведныя дакумэнты, асуджаючыя пагвалчаньні людзкіх правоў і дэмакратычных свабодаў на Беларусі. У часе ўрачыстасьці былі адзначаныя таксама і іншыя кангрэсмэны і сэнатары, якія сёлета выступалі у справе абароны дэмакратыі і людзкіх правоў у Рэспубліцы Беларусь. Прысутным было ясна, што амэрыканская Беларусь, як беларуска-амэрыканскае грамадзтва, гэтак і палітычнае кіраўніцтва ЗША паставілі справу таталітарнае ўлады на Беларусі на парадак дня, ды што палітычнае змаганьне беларускае дыяспары з таталітарным, гітлераўска-сталінскім, небеларускім рэжымам Лукашэнкі пачалося і ня спыніцца да дасягненьня мэты — Дэмакратычнае Беларускае Незалежнае Дзяржавы.

Сп. Шукелойць, старшыня Галоўнае Управы БАЗА зачытаў некалькі прывітаньняў, атрыманых у часе акадэміі: колькі прывітаньняў з Бацькаўшчыны, ад беларусаў Віленшчыны, зь Беласточчыны, ад беларускіх арганізацыяў ЗША, Канады, Аўстраліі, Францыі ды пару тэлеграмаў ад беларускіх супалак «блізкога замежжа», з Фінляндыі, Эстоніі, Украіны.

Сп. В. Тур зачытаў праэкт рэзалюцыі, якая была прынятая й зацьверджаная праз аклямацыю.

Мастацкая частка была забясьпечаная сям'ёй Казак-Пархоменка ды Братамі Еўтуховічаў. Дарэчы, выдатна дэбютавала перад большай беларуска-амэрыканскай аўдыторыяй спадарышня Оля Казак, якая перад тым двойны здабыла першае месца ў амэрыканскіх фальклёрных конкурсах.

У часе урачыстасьці дзеіла умела падрыхтаваная мастачкамі Ст. Тамарай і Галінай Русак выстаўка, ды стэнды беларускіх сувэніраў, кніжак, плякатаў. У заключнай прамове, старшыня БАЗА сп. А. Шукелойц падкрэсьліў — маладое пакаленьне пераймае палітычную эстафэту, ды палітычная дзейнасьць эміграцыі дзеля варожых дзеяньняў сёньняшняга ураду на Беларусі — узмоцніцца. Агульным пяяньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», адзначэньне Дня Незалежнасьці Беларусі закончылася.

## RESOLUTION

**adopted by the membership of the Belarusan American Association, Inc. (BAA) and the Belarusan American Youth Organization (BAYO) at a Rally Commemorating the 79th Anniversary of the Proclamation of the Independence of the Belarusan National (BNR) Republic, held in New Brunswick, N.J., Sunday, March 23, 1997**

**Whereas,** March 25, 1997, is the anniversary of the Proclamation of Belarusan independence, and urging the Government of Belarus to respect fundamental freedoms and human rights.

**Whereas,** the seedings of an independent and democratic Belarus, for which generations of Belarusan patriots have fought and died, are in danger of being swept away as a result of the policies of Belarusan President Aleksandr Lukashenka and the efforts of Russian nationalist leaders to recreate the Soviet empire;

**Whereas,** March 25 is the date that Belarusans throughout the world salute the sacrifices and bravery of the members of the Council of the Belarusan National Republic, who in 1918 liberated their country from harsh and oppressive Czarist rule. Representatives of the United Councils of the First Belarusan Congress, meeting in Miensk (Minsk), on March 15, 1918, issued a proclamation of independence of the Belarusan National Republic (BNR), adopted a national flag with three horizontal stripes of white, red and white, and subsequently received widespread international recognition;

**Whereas,** the armed forces of the **BNR** gallantly defended their independence and were brutally crushed by the armies of Soviet Russia in November 1920 in the Slucak region, and Belarus was divided between Soviet Russia and Poland in 1921 in accordance with the Treaty of Riga;

**Whereas,** the Government of President Lukashenka has monopolized the mass media, undermined the constitutional foundation for the separation of powers, suppressed the freedom of the press, defamed the national culture, narrowed the educational basis for patriotic upbringing of youth, maligned the Belarusan language, and undercut the ground for all-Belarusan unity;

**Whereas,** the referendum adopted in November of 1996 expanded President Lukashenka's already considerable powers in violation of the Constitution of Belarus and basic democratic principles;

**Therefore,** we, the membership of the **BAA** and the **BAYO** attending this Rally commemorating the 79th Anniversary of the proclamation of the Independence of the Belarusan National Republic, **unanimously resolve** to:

Inform the American people and the United States Government about facts concerning the abuse of human rights in the Republic of Belarus;

Urge Congress to enact Senate Concurrent Resolution and House Concurrent Resolution 163 introduced by Senators Lautenberg, and D'Amato, and Representative Frank Pallone, Jr. respectively, and that the Congress join with the people of Belarus and Belarusans throughout the world in defending the statehood and democracy of Belarus, sustaining the country's constitution, and preventing the loss by Belarus of its hard-won nationhood and its opportunity to survive as an equal and full-fledged member-state among the sovereign nations of the world.

Urge the United States to press the Government of President Lukashenka to abide by the provisions of the Helsinki Final Act and the constitution of the republic Belarus and other agreements of the Organization for the Security and Cooperation of Europe; guarantee freedom of the press and assembly, allow for the flowering of Belarusan culture, and enforce the separation of powers; and to support **The Independence of Belarus** and that it be the policy of the **United States** to support the people of **Belarus** in —

(1) **maintaining independent statehood;**
(2) **promoting the rule of law, human rights, and fundamental freedoms; and**
(3) **assuring that Belarus has the opportunity to survive as an equal and full-fledged member-state among the sovereign nations of the world.**

## ПРАГА

Беларуска-чэскае таварыства імя Скарыны адзначыла 79-я ўгодкі Дня Волі 25-га Сакавіка мітынгам у абарону дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі. Акцыя адбылася ў гістарычным сэрцы Прагі, ля помніка Сьв. Вацлава на Вацлаўскім пляцы.

На дэманстрацыі прысутнічалі прадстаўнікі беларускае абшчыны, чэскія прыхільнікі й сотні наведвальнікаў люднага пляцу, якім раздавалі ўлёткі па чэску й ангельску.

Дэманстранты трымалі бел-чырвона-белыя сьцягі й плякаты *«Лукашэнка й Чарнобыль — дзьве катастрофы Беларусі»*, *«70 дэмакратаў зьняволеныя»* ды інш.

Мытынг пачаўся прамовай Вацлава Трояна, сябры Чэскае Гэльсінскае Грамадзянскае Асамблеі, словы якога былі адрасааваныя чэскай публіцы. З аглядам сучаснай палітычнай сытуацыі ў Беларусі выступіў прэс-сакратар БНФ Сяргей Навумчык, які зазначыў актыўны пратэст беларускае моладзі супраць плянаў Масквы й Лукашэнкі зьліквідаваць незалежнасьць Беларусі. Ягоны выступ перакладаўся на чэскую.

Праская газэта "Lidove noviny" выдрукавала артыкул пад назвай «Зварот у сувязі з падзеямі ў Беларусі». *«Чэскі ўрад, парлямэнт й прэзыдэнт павінны выразна выявіць сваё стаўленьне да апошніх падзеяў у Беларусі,* — патрабуюсь прадстаўнікі беларускае апазыцыі і Чэскае Гэльсінскае Грамадзянскае Асамлеі. *Мы ня можам заставацца абыякавымі да таго, што адбываецца ўсяго некалькі соцень кілямэтраў на Ўсход..»*

**Юрка Станкевіч**

# САКАВІКОВЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

Рэзалюцыя 12-ай Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, якая адбывалася у Адалайдзе, Паўдзённая Аўстралія, з 13.02.1997 г. да 17.02.1997 году.

Мы удзельнікі 12-ай Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, якія згуртаваліся у Федаральнай Радзе Беларускіх Арганізацыяў, зьехаўшыся з усёй Аўстраліі, пастанавілі наступнае:

1. Дамагаемся, каб Прэзыдэнт Р. Беларусь гаварыў да свайго Народу на яго роднай Беларускай мове. Прэзыдэнт, які гаварыць да свайго народу чужою моваю — гэта зьнявага сябе і Беларускага Народу.

2. Дамагаемся вярнуць Беларускаму Народу ягоныя гістарычныя сімвалы, як Гэрб Пагоня і бел-чырвона-белы Сьцяг.

3. Дамагаемся, каб Беларуская Мова заняла сваё месца у дзяржаўных і усіх навуковых установах, у Арміі, ды ў Рэлігійных Установах.

4. Мы дамагаемся, каб была свабодная прэса, радыё, тэлебачаньне; свабоднае высказваньне кожнага чалавека і яго недатыкальнасьць.

5. Мы вітаем намаганьні беларускага народу скіраваныя на абарону Закону аб Дзяржаўнасьці й Канстытуцыі, што увайшоў у сілу 1-га верасьня у 1994 году.

6. Мы супраць таго, каб Урад Р. Беларусь уваходзіў у нейкія Фэдэрацыі, Інтэграцыі, ці Саюзы якія-б парушалі наш Сувэрэнітэт і Незалежнасьць.

7. Мы пастанаўляем падтрымоўваць далейшую дзейнасьць Б.Н. Фронту (Адраджэньне), і наагул усе Дэмакратычныя партыі і Арганізацыі, што стаяць на пазыцыі Незалежнасьці і непадзельнасьці нашай Бацькаўшчыны Беларусі.

Падцьвярджаючы усё вышэй сказанае, удзельнікі 12-е Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, разам зь Беларускай Эміграцыяй ува ўсім Вольным Сьвеце, заяўляем, што галоўная наша мэта — гэта Свабода, Незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны Беларусі і дабрабыт усіх яе грамадзян.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

СВАБОДНАЯ І НЕЗАЛЕЖНАЯ!

## Ў СЫДНЭІ

Беларуская грамада Сыднэю сьвяткавала ўгодкі Дзяржаўнасьці Беларусі ў нядзелю 23-га сакавіка. Урачыстасьць пачалася ў Гомэбшскай Праваслаўнай царкве, дзе пасьля Літургіі айцец Ігар Хлябіч адслужыў малебен за беларускі народ. Хор пад кіраўніцтвам маэстра Аўгена Падгайскага цудоўна выканаў «Магутны Божа».

Акадэмія адбывалася ў Беларускім Культурна-грамадзкім клюбе у Файрфілд. Адкрыў урачыстаць кароткім уступным словам старшыня клюбу Міхась Лужынскі. Ён прыпомніў векапомны Акт 25-га Сакавіка 1918 году ды зазначыў, што ў навейшай гісторыі Беларусі былі аж чатыры «акты» абвешчаньня Беларусі Незалежнай Дзяржавай: 2-гі — 1-га студзеня 1919 году, калі ў Смаленску была абвешчаная БССР, хаця фікцыйная, але яна не ўвайшла ў склад СССР аж да 1923 году. 3-ці акт — Другі Беларускі Кангрэс, што падцьвердзіў усе пастановы 1-га Кангрэсу, і, урэшце 4-ты, калі Вярхоўны Савет абвесьціў Беларусь незалежнай, сувэрэннай рэспублікай 27-га ліпеня 1990 году. Але ці стала Беларусь незалежнай дзяржавай пасьля апошняга акту? Сп. Лужынскі папрасіў сп-ра Вячаслава Эльхановіча, кіраўніка беларускага радыё ў Сыднэі адказаць на гэта.

Сп. Эльхановіч раскрыў усю хлусьню, фальш і антыбеларускасьць маскоўскага стаўленіка А. Лукашэнкі: беззаконнасьць рэфэрэндумаў, ганебную зьмену нацыянальнай сымболікі, пагвалчэньне правоў чалавека, забарону свабоднай прэсы, радыё і тэлебачаньня. Прадоўжнымі воплескамі заплацілі прэлегенту усе прысутныя.

Былі зачытаныя прывітальныя лісты і тэлеграмы: ад старшыні «Бацькаўшчыны» Ганны Сурмач, Беларускага Радыё Свабода з Прагі і ад прэзыдэнта БНР.

Прамаўлялі госьці: сп. Віктар Говар, пісьменьнік і мастацтвазнаўца; Аляксей Ганчарык, абсэльвэнт філялёгіі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Заля была поўная. Асабліва цешыла, што сярод прысутных было каля 20-х асобаў з новай эміграцыі.

Руплівыя гаспадыні падрыхтавалі багаты стол. Большасьць страваў былі посныя з увагі на Вялікі Пост.

У сяброўскай бяседзе хутка праляцеў час. На разьвітаньне хочацца крыкнуць: ЖЫВІ БЕЛАРУСЬ!

**М.Л.**

## БУДАПЭШТ

У сталіцы Угоршчыны сьвяткаваньне 79-х угодкаў незалежнасьці Беларусі адбылося ў Эотвос Лёранд унівэрсытэце. Сход быў арганізаваны дэпартамэнтам славянскіх моваў пры актыўным удзеле прафэсара беларускае мовы сп. Валянтыны Мароз. У пасяджэньні ўзялі ўдзел каля дзьвух дзесяткоў чалавек, у тым ліку студэнты з розных краінаў Усходняе Эўропы, якія цікавяцца падзеямі ў Беларусі. Уступнае слова сказаў сп. Мікалай Пачкаеў. Пасьля адбыўся прагляд фільму «Менск Вясна-1996». Неафіцыйная частка праццягвалася ў сяброўскай атмасфэры.

Арганізатары не зьвярталіся па дазвол на правядзеньне імпрэзы, выкарыстоўвалі незарэгістраваныя сымбалі, паліцыя не разганяла сход, пра сутычкі не паведамлялася.

**Беларускі студэнт з Будапэшту**

## БРУКЛІН, НЬЮ ЁРК

16-га сакавіка ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ адбылося сьвяткаваньне адразу дзьвюх урачыстасьцяў — сьвята Перамогі праваслаўя й Дня незалежнасьці 25-га Сакавіка. Сьвятую Літаргію й урачысты Малебен адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў. Прыгожа й урачыста сьпяваў падмацаваны новымі галасамі хор.

Сьвяткаваньне адбывалася пры значным ліку людзей, у бальшыні нядаўна прыбылых зь Беларусі. Многія зь іх першы раз пазнаёміліся з жыцьцём беларускае эміграцыі й з Беларускай Царквой. Праведзеная напярэдадні сьвята рэклямная кампанія ў газэтах Брукліна цалкам сябе апраўдала.

Пасьля буфэту й сяброўскіх гутарак, абмену навінамі й знаёмстваў слова ўзяў сп. Барыс Данілюк. У прачытаным ім рэфэраце гаварылася пра ролю беларускай гістарычнай спадчыны й гістарычных ідэяў пры распрацоўцы сучасных канцэпцый разьвіцьця беларускага грамадзства.

Тым часам публіка ў Сабор усё прыбывала. Прыемнай неспадзяванкай стаўся прыезд групы людзей з суседняй парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага з Рычманд Гіл, якія сваёй салідарнасьцяй падтрымалі ідэю Сьвята.

Урэшце распачаўся канцэрт з удзелам выдатных артыстаў Валянтыны Пархоменкі, Вольгі й Алеся Казак, Рымы Маленчанкі. У рэпэртуары былі народныя й эстрадныя песьні, прагучэла новая дзьвюхмоўная кампазыцыя Вольгі Казак, сьпяваліся пакладзеныя на музыку псальмы. Сп. Р. Маленчанка прадставіла слухачам вершы паэтаў эміграцыі й Бацькаўшчыны. Надзвычай уражаньня засталіся дагэтуль недалучаныя да беларуска-амэрыканскага грамадзства госьці.

Вялікі дзякуй артыстам, парахвіянкам, што парупіліся пра буфэт й пачастунак ды ўсім хто займаўся падрыхтоўкай сьвята. Сьвята ў Брукліне ўдалося!

**Удзельнік**

## ТАРОНТА, КАНАДА

У надзелю 6 красавіка '97 быў амаль летні дзень. Беларускі й канадыйскі сьцягі при ўваходзе ў будынак БРГЦ лёгка калыхаліся на цёплым ветрыку. Відаць гэта вельмі добры прызнак, што нават і пагода паспрыяла беларускаму сьвяту Дня Волі. Не гледзячы, што гадзіннікі былі зьмененыя на летні час, бальшыня грамадзтва прыбыла сваечасова на Багаслужбу. Мітрапаліт БАПЦ Архіяпіскап Мікалай у асысьце двух сьвятароў адправіў сьв. Літургію з малітвамі за Беларусь і беларускі народ. Прыгожую і зьмястоўную казань з увагай слухалі прысутныя. На заканчэньне Багаслужбы ўсе вернікі прапялі нацыянальную малітву «Магутны Божа».

У ходзе далейшай праграмы дня было агульнае падсілкаваньне кавай і рознымі печывамі, крыху сяброўскіх гутарак ды працяг урачыстасьці.

Урачысты сход адкрыў старшыня ЗБК сп. Мікола Ганько словам аб нашых заданьнях. Наступна было прачытана каля дзесятка прывітаньняў; ад Старшыні Рады БНР, зь Беларусі і ад беларускіх арганізацыяў дыяспары. Чыталі на перамену сп-я Каця Аўсовіч і сп. Мікола Ганько. Зь нядоўгім, але вельмі зьмястоўным рэфэратам выступіў сябра Ўправы ЗБК Славік. На дзіва, што чалавек з новага пакаленьня так добра ацаніў сяньняшнее становішча ў Беларусі і прычыны посьпехаў антыбеларускіх сілаў, выкарыстоўваючы маласьвядомасьць людзей «гомосовіетікаў» у сваіх антыбеларускіх махінацыях. Пасьля рэфэрату Славік запрапанаваў прысутным зьмест рэзалюцыі, якую прысутныя прынялі аднагалосна.

Для ўпрыгожаньня акадэміі др. Раіса Жук Грышкевіч прадэклямавала верш Янкі Купалы «Паўстань з народу нашага Прарок...» Сп. Б. Кірка — Старшыня Парафіяльнай Рады прывітаў прысутных, заклікаючы да еднасьці й згоды. Сп. Раман Кардонскі зрабіў заклік матэрыяльна падтрымоўваць беларускую дэмакратычную прэсу ў Беларусі.

Падзякамі за прысутнасьць і ўдзел у сьвяткаваньні блізкім і далейшым старшыня ЗБК закончыў урачыстасьць а прысутныя адсьпявалі Беларускі Нацыянальны Гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...».

Грамада разыходзілася ў лепшым і аптымістычным настроі, чым прыходзіла на сьвята, бо чарпнула новых сілаў да далейшага жыцьця і працы на карысьць Маці Беларусі.

**М.Г.**

## ЛЕКЦЫІ ПРА БЕЛАРУСЬ

У днёх 24, 25 і 26-га лютага, былі прачытаныя ў кэбэцкай (франкамоўнай) сярэдняй школе Polycalente Carrefour, у Гатыно, каля Атавы, восем лекцыяў пра Беларусь.

Лекцыі былі арганізаваныя ініцыятывай студэнцкага клюбу для студэнтаў старэйшых клясаў школы. Ня гледзячы на тое, што зьмест лекцыяў быў у сваей бальшыні той самы — Чарнобыльскае няшчасьце, цяперашняя сытуацыя ў Беларусі, ды як Канада можа памагчы ахвярам Чарнобыля ў Беларусі — некаторыя студэнты слухалі лекцыі па некалькі разоў.

Увага студэнтаў у часе лекцыяў і вялікая колькасьць пытаньняў сьветчылі аб зацікаўленьні маладых слухачоў прадстаўленаю ім тэмай. Думаю, што не памылюся калі скажу, што каля трыста маладых Канадыйцаў ужо ня будуць больш пытаца: «А што такое Беларусь?» — сказала пасьля лекцыяў дакладчыца Івонка Сурвілла, старшыня Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

**І.С.**

# БЕЛАРУСКІ ІНТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА Ў КАНАДЗЕ

*Адзначаўшы 45-я ўгодкі БІНІМ у ЗША, пра што пісалася ў «Беларусе», мы зьвярнуліся да старшыні БІНІМ у Канадзе з просьбаю адказаць на некалькі пытаньняў пра гэтую паважную і вядомую ўстанову. Адказвае спадарыня Івонка Сурвілла.*



*Раскажыце, калі ласка, калі быў запачаткаваны БІНІМ у Канадзе і хто стаяў ля яго вытокаў?*

Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Канадзе быў заарганізаваны у верасьні 1967 г. у Таронта. Такая інстытуцыя была патрэбнай беларускім культурным дзеячам, каб мець магчымасьць браць удзел у навуковым жыцьці Канады. Зазначу, што толькі канадыйскія арганізацыі і інстытуцыі маглі атрымаць матэрыяльную і практычную дапамогу ад урадавых праграмаў для сваёй дзейнасьці па лініі падтрымкі нацыянальных культур. Ініцыятарам Інстытуту быў Б. Жук-Грышкевіч. Першымі сябрамі яго — Алесь Грыцук, Барыс і Людміла Рагулі, Кастусь Акула, Раіса Жук-Грышкевіч, Янка Садоўскі, Яўхім Скурат. Старшынямі Інстытуту, пасьля В. Жук-Грышкевіча, былі Янка Садоўскі, Барыс Рагуля, Івонка Сурвілла.

*Ці можна крыху падрабязьней пра мэты Інстытуту, а таксама пра зробленае за гэты час.*

Галоўнай мэтай БІНІМ было распаўсюджваць у Канадзе інфармацыю пра беларускую культуру. Гэта рабілася шляхам арганізацыі беларусаведных канфэрэнцыяў, выставаў, удзелу ў навуковых мерапрыемствах, што ладзіліся іншымі арганізацыямі. Важнай падзеяй сталася першая беларусаведная канфэрэнцыя ў Kingston, Ontario, арганізаваная ў 1971 г. пры супрацоўніцтве Унівэрсытэту Queen's. Адной з найбольшых беларусаведных канфэрэнцыяў у Паўночнай Амэрыцы быў Беларускі Тыдзень Студыяў у Атаве ў красавіку 1975 г., арганізаваны пры супрацоўніцтве Славянскага Аддзелу Атаўскага Ўнівэрсытэту і Нацыянальнага Музэю Чалавека (цяпер Музэй Цывілізацыі). Апрача ўрачыстага вечара ў гонар Натальлі Асеньневай, адбылася выстава беларускага народнага мастацтва, якая трывала тыдзень часу, а таксама канфэрэнцыя на працягу двух дзён з дакладамі вучоных беларускай дыяспары ды іншых беларусістаў. Тыдзень студыяў быў фінансаваны канадыйскай урадавай праграмай па падтрымцы нацыянальных культур. Трэба заўважыць, што некаторыя сябры Інстытуту бралі ўдзел у розных культурных мерапрыемствах, арганізаваных індывідуальна або ў рамках міжэтнічнай дзейнасьці. Ад 1989 г. сябры Інстытуту бяруць удзел у штагадовых канфэрэнцыях, арганізаваных Асацыяцыяй Канадыйскіх Славістаў у рамках Кангрэсу Навуковых Супольнасьцяў Канады. Беларускія Сэсьі адбыліся Laval, Quebec (1989), Victoria, B.C. (1990), Queen's, Kingston, Ontario (1991), Charlottetown, P.E.I. (1992), Carleton University, Ottawa (1993), Universite du Quebec a Montreal (1995). У працы пераважнай большасьці канфэрэнцыяў бралі ўдзел сябры БІНІМ з ЗША: Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка Запруднік, Томас Бэрд, Галіна Русак, Марыя-Паўля Сурвілла. Зіна Гімпелевіч, прафэсар ўнівэрсітэту Waterloo, выконвае ролю сувязной між інстытутамі і Асацыяцыяй Канадыйскіх Славістаў.

*Дзякую вялікі за гутарку і плённай Вам працы!*

**Гутарку вёў Лявон Юрэвіч**



*На першай беларусаведнай канфэрэнцыі у Кінгстон, Антарыё у 1971 г.*

# РЭФЛЕКСЫІ НА 45-Я УГОДКІ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА Ў НЬЮ ЁРКУ

У маёй памяці, у маёй сьведамсьці пачаткам БІНІМ у Нью Ёрку ёсьць Згуртаваньне Беларускіх Лекараў на Чужыне. Мела я гонар быць сябрам гэтае арганізацыі, якая выдавала свой часопіс і пачала працу над слоўнікам беларускіх мэдычных тэрмінаў. Заснавальнікам і старшынём ЗБЛЧ быў др. Вітаўт Тумаш, які быў пасьля старшынём і «сьпірытус мовэнс» доўгімі гадамі й БІНІМ у Нью Ёрку. Першым, праз кароткі час, старшынём БІНІМ, як мне памятаецца, быў інж. Ул. Тамашчык, пазьнейшы япіскап Васіль, Паршаерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Думка-успаміны шырацца й пытаеш сябе: які ўплыў на цябе асабіста, на беларускае грамадзства Канады, зрабіў БІНІМ? Адразу выступаюць чатыры мамэнты:

**Першае.** Ужо ад пачатку 50-х гадоў сябра БІНІМ, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, арганізуе пры ўнівэрсытэце Таронта лектарат беларусаведы.

Беларускі лектарат прі Унівэрсытэце Таронта для мяне, выходца з польскіх школ, даў падставу ды імпэт да далейшых студыяў беларусаведы.

**Другі** аспэкт, якім моцна ўзьдзейнічаў БІНІМ на нас усіх, гэта Скарынаведная праца др. Вітаўта Тумаша. Вось-жа *Скарыніяна* пазнаёміла нас з нашым волатам духа др. Франьцішкам Скарынам й ягонаю дзейнасьцю і ўзгадавала ў нас культ Франціўшка Скарыны.

Згуртаваньне Беларусаў Канады з удзелам адзначала ў верасьні 1967 году 450-я ўгодкі Беларускага Друку. З гэтай нагоды наладжана была ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта вялікая выстаўка Старога Беларускага Друку, прысьвечаная жыцьцю й творчасьці др. Франьцішка Скарыны. Багатыя матэрыялы для выстаўкі пазычыў нам БІНІМ зь Нью Ёрку.

У 1972 годзе ў часе 10-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, у Таронта, Скарынаўскія угодкі былі адзначаныя выстаўкай і дакладам др. Вітаўта Тумаша на тэму: «450-годзьдзе друку на беларускай зямлі — «Малой падарожнай кніжкі» доктара Ф. Скарыны». БІНІМ у Нью Ёрку на гэтыя ўгодкі выдаў Скарынаўскія маркі, якія пашыраліся й ў Канадзе.

У 1985 годзе ЗБК адзначала 500-я ўгодкі ад нараджэньня Доктара Ф. Скарыны».

**Трэйцяе:** Культ князёўны Прадславы, Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Канадзе паўстаў дзякуючы ня толькі ўжо БІНІМ у Нью Ёрку, які выдаў колерную фатаграфію Крыжа Еўфрасіньні Полацкай, а, і можа перадусім, дзякуючы БІНІМ у Канадзе. Старшыня яго, мастачка Івонка Сурвілла, стварыла мастацкі вобраз Еўфрасіньні Полацкай не традыцыйны з крыжам і лілеяй у руках, а партрэт Сьвятое інсьпіраваны Полацкімі фрэскамі. Гэты якраз партрэт работы старшыні БІНІМ у Канадзе, ўзгалаўляў не адну мастацкую выстаўку, якую беларусы ладзілі ў сваім беларускім цэнтры, ды а шматкультурных фэстывалях у Канадзе.

Еўфрасінеўскі Крыж быў мадэлям для пабудовы Беларускага памятнага Крыжа, што ў Прошчы ў Мідлянд, Канада, узьнесянага на 1000-годзьдзе Хрысьціянства ў Беларусі.

**Чацьверты** мамэнт, якім БІНІМ ў Нью Ёрку зрабіў моцны ўплыў на беларускае грамадзтва Канады гэта выданьне кнігі «Курапаты». Кнігі, што задакумэнтавала вынікі архэалягічных дасьледаваньняў у Курапатах сп. Зянона Пазьняка, Старшыні Беларускага Народнага Фронту, і ягоных супрацоўнікаў.

Вось-жа дакумэнтацыя бальшавіцкіх злачынстваў на Беларусі — выданьне абвінавачаньня камунізму — кнігі «Курапаты», якая была выдрукаваная дзякуючы стараньням новага кіраўніцтва БІНІМу на чале з д-рам Вітаўтам Кіпелем, натхнілі беларусаў Канады паставіць манумэнт «Памяці ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі» у Прошчы Пакутнікаў у Мідлянд, Канада. Урачыстасьці асьвячэньня помніка з мэмарыяльнай табліцай праводзіў айцец Аляксандар Надсон, Апостальскі Візытар для Беларусаў, у часе 8-га паломніцтва да Беларускага Крыжа пры ўдзеле беларусаў Канады, ЗША, Англіі й Беласточчыны 1-га чэрвеня, 1996 году. Цяпер мы маем у Канадзе **Беларускі памятны комплекс** — Беларускі «шрайн», да якога будуць адбывацца штагодніх паломніцтвы.

Вось гэтымі чатырма, для мене асабіста, ды для нас у Канадзе, працоўнымі праэктамі БІНІМ зрабіў заўважны ўзгадаваўчы, фармуючы ўплыў. Думаю, што не памылюся, калі выкажу пагляд, што зрабіў БІНІМ уплыў і на цэлае беларускае грамадзства за мяжой. А працоўных дасягненьняў у БІНІМе ёсьць не чатыры — асабліва памятных мне асабіста, а значна больш ... дзесяткі, сотні.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

---

*Др-у Вітаўту Кіпелю:*

Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады ды й свайго асабіста вітаю Вас. сп. Старшыня і Управу БІНІМу з 45-мі ўгодкамі арганізацыі. Значэньня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў ЗША для разьвіцьця беларускае культуры і навуковае дасьледніцкае дзейнасьці нельга аценіць. Уплыў і праца БІНІМу шырыцца ня толькі ў сфэру працы ў галіне нацыянальна-узгадоўчай-культуралягічнай, але і ў дзялянку палітычную: інфармаваньне заходняга сьвету пра Беларусь, пра беларускую гісторыю, пра змаганьне нацыі за дзяржаўную незалежнасьць.

Жадаем Вам і Вашаму працоўнаму калектыву добрага здароў'я, плённых посьпехаў у бягучых праэктах ды памыснае будучае дзейнасьці БІНІМу ў Злучаных Штатах.

Жыве Беларусь!

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч,**
**Старшыня ККБК**

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

*Адной з найлепшых крыніц для вывучэньня гісторыі эміграцыйнай літаратуры з'яўляюцца лісты. Аднак часам пісьменьнікі ў сваім ліставаньні закраналі і падзеі мінулага, узгадвалі сваіх знаёмых, што засталіся на Бацькаўшчыне ці загінулі ў Сібіры. Дзе згадка імя, дзе апісаньне падзеі, дзе проста эпітэт, але ўзятае разам яно дае лепшае бачаньне пісьменьнікаў — і на Беларусі, і на эміграцыі, і перад вайной, і пасьля яе. Ніжэй цытуюцца ўрыўкі зь лістоў Юркі Віцьбіча, арыгіналы якіх захоўваюцца ў ягоным архіве ў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага.*

«Дарагі айцец Леў. Вас цікавіць: дзе падзеўся колішні дырэктар Віцебскага музэю Язэп Васілевіч? Чым займаўся апошні час Шлюбскі і што зь ім сталася? Адказваю. Калі не памыляюся, дык у Віцебскім музэі ня было гэткага дырэктара. Значны час у музэю працаваў, як старэйшы навуковец, Васілевіч, вучань Сапунова, на жаль, ня памятаю ягонае імя. Менавіта разам зь ім мне пашчасьціла ўратаваць Віцебскі касьцёл сьв. Антона Падуанскага ад разбурэньня і ператварыць яго ў філіял музея. Ведаю, што ў часе вайны Васілевіч зьявіўся да Міхася Рагулі (у той час разам з Усеваладам Родзькам быў у Віцебску) і запрапанаваў свае паслугі ў захаваньні старадаўніны. Аднак чамусьці яго адсунулі ўбок. Па тых зьвестках, якія ёсьць у мяне, Васілевіч памёр ад голаду ў Аліце (Летува), дзе ад тае-ж сьмерці загінула шмат добрых віцеблянаў.

Шлюбскага ведаю з маленства. Можа, ён найбольш тыповы для нашых нацдэмаў. Можа, ён адзін з тых, хто найбольш зрабіў для нашае Бацькаўшчыны як археалёг, этнограф, а самае галоўнае, як закаханы ў нашую старасьветчыну. Ён быў рэпрэсіраваны ў 1931 г., потым, калі адбыў тэрмін сылкі, яму не дазволілі зьвярнуцца ў БССР і ён абраў Невяльшчыну (Беларусь), дзе настаўнічаў. Не аднойчы прыязджаў у Віцебск і гасьцяваў у мяне, але больш нікога не наведваў». (*Зь ліста да Л. Гарошкі ад 13.05.54*).

«Нарыс пра Эдуарда Самуйлёнка я распачаў і, магчыма, неўзабаве скончу. На мой асабісты пагляд, гэта выдатны пісьменьнік стаўся ахвярай бальшавізму, які перакруціў яго як пісьменьніка і забіў як чалавека. З гэтым поглядам супадае загаловак — «Зпадманулі русальчыны сьцежкі». Бязумоўна, на пагляд таго артадокса, што, поркаючыся ў Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэцы шукае ў пісьменьнікаў колішніх блохаў, Э. Самуйлёнак на 120% савецкі пісьменьнік, аб чым сьведчыць ягоная афіцыйная творчасьць і ордэн. На жаль, такі артадокс не разумее, што простая лінія ў жыцьці — ад клыкскі да труны — уласьцівая толькі сьвятым і недарэкам. Аднак, калі няма геамэтрычнае простае, затое існуе адзіны напрамак з тымі ці іншымі тымчасовымі зрываамі. Мне здаецца, што ні адзін добрасумленны крытык не пачне абагульваць творчасьць ці жыцьцё такго ці іншага пісьменьніка на падставе вылучна ягоных зрываў. Хочацца прывесьці адзін прыклад, што сьведчыць аб тым, як калечыла савецкая рэчаіснасьць душы 'інжынэраў чалавецкіх душаў'.

Міхась Багун меў заўсёды напагатове 5-6 вершаў «На сьмерць правадыра». Калі хто-небудзь зь іх здыхаў, дык ён, падставіўшы адпаведнае імя, як хутчэй бег з сваё Даўгабродзкае ў «Зьвязду« ці «Чырвоную зьмену». Аднойчы, калі памёр Дзяржынскі, пабег ён з прачулым вершам у «Зьвязду». Прыбег, аж засопся, а з яе выходзіць Тодар Кляшторны і ўсьміхаецца: Дарма, братка. І тут, і ў «Чырвонай зьмене», і ў Работніцы й сялянцы», і ў «Піянеры Беларусі» ідзе маё. Хто ў стане кінуць камянём у гэтых двох, што сталіся ахвярамі бальшавізму? (*Зь ліста да А. Адамовіча ад 21.11.54*)

«Заўчора даведаўся пра сьмерць Андрэя Александровіча. На разе спрабую прыгадаць яго чым-небудзь добрым і не ў стане. І справа тут палягае не ў асабістым, не ў ягоным сталым цкаваньні мяне. (Ягоны-ж подпіс першы пад артыкулам у «ЛіМ — «Нашы абвінавачваньні Віцьбічу») Між іншым, характэрна, што не пісьменьнікі-гэбраі, а жонка Александровіча заўважыла 'герэтычнасьць' назову «Лшона Габоа Біўрушалайм». Перадусім згадваецца подлы вершаваны данос «Цені на сонцы», што цалкам супадаў з невершаванай жыцьцёвай практыкай — Аляксандровіч добра ведаў, як адчыняюцца дзьверы ў ГПУ і не адзін пісьменьнік загінуў дзякуючы яму. «Эх, Андрюша, Вырвиглаз. Налетай, рабочий клас» — гэтак трапна ахарактарызаваў яго незабытны Ўладзімер Хадыка.

Таму, калі дайшла чарга да Александровіча, дык, пакölі я вычуў, ніхто ў душы не спачуваў яму з гэтае прычыны. У часе допытаў яму зламалі два рабры, але й на Ігарцы ён заўсёды выхваляў '-вялікага' і 'мудрага' Сталіна (успамін Т. Лебяды), чым узброіў супроць сябе большасьць з паняволеных...

А наразе, акрамя іншага, працую над творам, прысьвечаным ваўку. Гэтак і распачаў: «надысь мне пашанцавала наведаць земляка». Запраўды: і львы, і тыгры скачуць праз агністыя абручы, ліс абдымаецца з куркамі ды пацукамі, 'смаргонскі акадэмік' падарожнічае на веласіпедах. Але за мільёны год не падпарадкаваў сабе чалавек ваўка, хоць той і бліжэйшы сваяк да сабакі. Ніколі не пачне ён круціць хвастом, лісьліва заглядаць у вочы ды стаяць на задніх лапках, выпрошваючы абгрызеную костку. У тым заапарку, дзе я наведаў земляка, усе зьверы спакойна ляжалі ў клетках. Толькі адзін воўк бегаў з кута ў кут свае турмы, ні на хвіліну не спыняючыся. У нічых зялёных вачох не адбівалася нічога акрамя бязьмежнае нянавісьці да чалавека і бясконцага суму па волі. Перад ім ляжалі бадай некранутыя кавалкі мяса: лепш нэндза на волі, чым дастача за кратамі.

Асабліва мне падабаюцца ваўчыныя вочы. У часы юнацтва мне неяк давялося ўзімку ўначы ехаць зь Віцебску ў Вяліж. Нечакана я заўважыў уперадзе агеньчыкі. І мне здалося, што мы набліжаемся да Суражу. Аднак конь спалохана захрыпеў, а балагол заўважыў: Да Суражу яшчэ 12 вёрст. Гэта ваўкі.

Не захаваю ад Вас, што мне гэтыя агеньчыкі спадабаліся на ўсё жыцьцё больш за караленкаўскія.

А ці чулі Вы калі-небудзь, як вые воўк на волі? Нават у прызвычаеннага чалавека ад ягонае песьні пакоціцца па сьпіне мурашкі. «Я тут і пляваць хачу на вашых сабакаў і на вашыя стрэльбы». Не дарма ні адзін зьвер не адбіўся гэтак у беларускім фальклоры, як воўк. Прынамсі, я асабіста ведаю аб ім блізу сотні прыказак ды дзесяткі казкаў. І не кажу ўжо пра ваўкалака:

*Буду вольным ваўкалакам.*
*Ты-ж на прывязі сабакам.*

Вось і хочацца напісаць нешта накшталт гімна ваўку. Ён больш, чым арлы ды ільвы годны таго, каб стацца дзяржаўным гэрбам» (*Зь ліста да А. Адамовіча ад 14.01.63*)

*Постаці*

# ВЯЧАСЛАЎ СЕЛЯХ-КАЧАНСКІ



«Беларускі самародак, які бадай ад лапцяў, ад галоты беларускага мястэчка Лагойску дайшоў да Марыінскага Імпэратарскага тэатру ў Пецярбурзе, да «Дэмана», да «Ігара», да «Тарэадора», да дубліраваньня Шаляпіна». Гэтыя словы Юркі Віцьбіча пра сьпевака Вячаслава Селяха-Качанскага (1885-1976).

У 1971 годзе, незадоўга да сваёй сьмерці, Селях-Качанскі разам са сп. Мядзэйкам працаваў над укладаньнем сьпеўніка Беларускіх Ветэранаў, які быў выдадзены ў 1975 годзе пад назовам «Сьпеўнік беларускіх салдатаў». Апытваючы ўсіх знаёмых, сяброў, шкадуючы, што багата хто незаўсёды адышоў, ён акідаў поглядам і сваё жыцьцё: «Ёсьць у маёй старой ужо галаве мэлёдыі з часоў пачатковай школы (1894-1898), далей з настаўніцкай сэмінарыі (1901-1905) і пазьней з Кансэрваторыі (1910) і Марыінскага тэатру (1915). Затым, з часу маёй працы у Музычнай сэкцыі Інбелкульту ў Менску, з 1925 г. да 1927, да прызначэньня мяне дырэктарам БДТ-1, я заарганізаваў капэлу ў ліку тады 50 асоб сьпевакоў, у якую ўліўся хор ад вандроўнага тэатру Галубка. Успамінаю сьпеўнік маладога Равенскага, якім я карыстаўся для рэпэртуару капэлы. Зь яго прыпамінаюцца надзвычай добрыя песьні «Ня стой, каліна», «Як стаяла белая бяроза», «Зіма», але і словы, і музыка-мэлёдыі ўжо забыліся. Мне прыпомнілася цяпер у сувязі з арганізацыяй сьпеўніка звыш 40 мэлёдый старадаўніх песьняў. Напрыклад, ведамая ў канцы мінулага XIX ст. «Ах ты воля мая, воля», складзеная з нагоды рэформы Александра II — аб адмене прыгону. Або яшчэ мэлёдыя песьні пра лёс Напалеона «По сінім волнам океана» і шмат іншых, расейскіх, украінскіх, а крыху і тагачасных беларускіх, якія сьпяваў Агрэняў-Славянскі — «Ці ня дудка мая», «Былі ў бацькі тры сыны». (Арыгінал тэксту захоўваецца ў Архіве Фундацыі імя П. Крэчэўскага).

Селях-Качанскі меў ня толькі цудоўны голас (Шаляпн казаў, што толькі той можа яго замяніць), але й добры гумар. Распавядаюць, як недзе ў 1918 ці 1919 ён даваў канцэрт у Гатчыне ў Летнім тэатры. Падчас сьпеваў у аднэй з лёжаў пачуўся гучны голас. Сьпявак спыніў сам сябе, падышоў да лёжы і спытаўся: «Я вам перашкаджаю, здаецца» і зышоў са сцэны. Толькі пасьля таго, як дырэктар тэатру навёў паарадак, Селях вярнуўся. Багата розных гісторыяў пра характар ды весялосьць знакамітага барытона прыгадвае кампазытар В. Верасаў, аўтар цікавых успамінаў «Мае сустрэчы зь Вячаславам Селяхам-Качанскім» («Беларус», верасень 1976).

Апынуўшыся пасьля вайны ў Нямеччыне ў лягерох ДП, Селях-Качанскі не пакідае думкі пра музыку. У 1947 ён піша сябрам у лягер Міхельсдорф: «У вас, кажуць, моладзі сабралася чалавек 100, а ніякіх заняткаў у галіне харавога і сцэнічнага мастацтва няма. Мае думкі складаюцца ў напрамку той працы, якую я маю распачаць у новай арганізацыі «Саюз Беларускай моладзі». У першую чаргу патрэбна будзе заснаваць народны хор і драматычны тэатр-студыю. У апошнім, працу думаю распачаць з практычных заняткаў адразу над нейкай п'есай і рабіць тое, што рабілі сьветлай памяці Галубок, рэжысёр Міровіч ў БДТ-1 са спадаром Фларыянам Ждановічам. Пастаноўка п'есы — гэта практычная вучоба. Мэтад у нашых варунках больш мэтазгодны, на маю думку, за тэарэтычны». (Арыгінал ліста захоўваецца ў Архіве БІНІМ).

Ён, пераехаўшы ў Міхельсдорф, пачаў заняткі і з харам і, асноўнае, пастаноўку п'есы "Загубленае Жыцьцё" Т. Лебяды ды іншыя, зь якімі выступаў у беларускіх селішчах (ліст В. Кіпеля да аўтара).

І ён дамогся свайго. Да сёньня памятаюць людзі Саўт-Рывэрскі хор і групу дырыжораў (Д. Верасаў, Х. Барысавец, А. Жывец, Ю. Рымко), якія ачольваў народны артыст Беларусі В. Селях-Качанскі.

**Лявон Юрэвіч**

## СЬВ. ПАМЯЦІ АЛЕКСАНДАР ЛАШУК



Нарадзіўся Александар (Алесь) Лашук дня 11-га лістапада 1909 году у вёсцы Пагробішча, недалёка мястэчка Ільлі на Вілейшчыне. Па заканчэньні польскай сямігодкі ў Ільлі адразу ўладзіўся на працу у адміністрацыі сваёй гміны ў Ільлі. Дзякуючы сваёй сумленнай працы, пасьля некалькі гадоў стаўся сакратаром адміністрацыі гміны. Праца ў гміне абарвалася ў верасьні 1939 году, з прыходам у Заходнюю Беларусь чырвонай арміі.

У час нямецка-савецкай вайны працаваў у гаспадарчым аддзеле мясцовай адміністрацыі. У 1944 годзе апынуўся на Захадзе. Прыпыніўся ў Францыі. Пры дапамозе францускіх антыгітлераўскіх арганізацыяў Алесю разам з іншымі маладымі беларусам і удалося перабрацца ў Італію, дзе ён уступіў ў рады арміі гэнэрала Андэрса. Па заканчэньні вайны ў 1945 годзе жаўнеры гэн. Андэрса, пасьля дэмабілізацыі былі адпраўленыя ў Англію і сярод іх быў і пакойны Алесь. Алесь пасяліўся ў Лёндане, дзе й правёў рэшту свайго працавітага жыцьця.

У Англіі А. Лашук адразу ўлучаецца ў актыўную нацыянальную працу, ў арганізацыю Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі і арганізацыю сэктару Рады БНР. За час сваёй грамадзка-палітычнай працы Алесь выконваў розныя функцыі: скарбніка, сакратара, ды многа гадоў быў старшынём сэктару Рады БНР у Англіі і адначасна й скарбнікам яго. Свае абавязкі Алесь заўсёды выконваў акуратна, дакладна і своечасова і гэтага вымагаў ад іншых, хто зь ім супрацоўнічаў. Аб усіх ведамых суродзічах на эміграцыі, раскінутых па розных краінах, Алесь зьбіраў даныя для сваёй картатэкі, як месца і дата нараджаньня, прафэсыя і іншае.

Памёр 3-га сакавіка 1997 году. Абрад паховінаў адправіў айцец Александар Надсон. Пахаваны на магілках St. Pancras у Іст Фінчлы. На паховінах якія адбыліся 11-га сакавіка, было шмат прысутных сяброў і знаёмых суродзічаў зь Лёндану і ваколіцаў.

**В.К.**

## МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ...

*(Працяг з бал. 2)*

няма свайго капіталу, каб будаваць свае заводы, няма грошай, каб выплачваць пэнсіі, зарплаты — дык захоплівай Беларусь.

Расея ня думае гандляваць за Беларусяй, Расея рабуе Беларусь. Гэткая ж палітыка Расеі была і ў Таджыкістане, і ў Чачні, Малдове, Абхазіі. Гэта — імпэрская псіхалёгія, а ў расейскіх кіраўнікоў яна — нязьменная.

Аднак шырыцца рух супраць акупацыі Беларусі. Беларусь пачынае разумець небясьпеку. Апазыцыйны стан нас гартуе ды адначасна блізіць нас да нацыянальнай дзяржаўнасьці. Няма слоў, змаганьне ня простае, бо з хітрай навалай змагаюцца не танкі і кулямёты, а сьвядомасьць, воля, розум і нацыянальнае адзінства, якое дасюль не заўсёды было салідарным. І тым ня меншщ мы узмацняемся. Нашыя рады павялічаюцца й шчыльнеюць. Незалежнасьць і вольнасьць не «даюцца», яны здабываюцца. І народ наш становіцца на шлях здабыцьця свабоды, аднаўленьня дзяржаўнасьці.

**Зянон Пазьняк**

### БЕЛАРУСКІ ЎДЗЕЛ У КАНФЭРЭНЦЫІ

26-27 красавіка сёлета ў Калюмбійскім Ун-це адбудзецца 2-ая гадавая канфэрэнцыя Асацыяцыі Дасьледваньня Нацыянальнасьцяў. БІНІМ зьяўляецца сябрам гэтае арганізацыі, а бяруць удзел у канфэрэнцыі — Беларускі стол: Давід Марплес, Том Бэрд, Вітаўт Кіпель, Ала Рамана, Алеся Кіпель і Ян Запруднік.

Уваход вольны. Усе запрашаюцца.

### Сьвятлана Явар

*І лоб штодня мой на прыцэл бяруць*
*Навучаныя забіваць канвоі.,*
*Л. Геніюш*

* * *

У цырку выступалі акрабаты,
іх рызыка вялікаю была...
Танцоркаю асвойвала канат я:
на мітынг забаронены пайшла.

З палёгкай уздыхнула — не забралі,
не пасадзілі ў брудны «варанок».
Ды сілу паказалі. Раззлавалі
узброеную толькі парай ног.

Як дзіўна, што жыве яшчэ заўзятар
над людствам крыважэрна
царавадь.
Як я люблю, каб ведаў ты,
дыктатар,
на волі, без прымусу, танцаваць.

У цырку выступалі акрабаты,
іх рызыка вялікаю была...
Танцоркаю асвойвала канат я:
на мітынг забаронены пайшла.

*Менск*
*17 сакавіка 1997.*

### ВІНШУЕМ!

19 лютага сёлета Беларуская Грамада ў Канадзе атрымала папаўненьне. У спадарства Лявона і Крыстыны Паплаўскіх нарадзілася дачка Натальля. Шчыра віншуем бацькоў і жадаем шчасьця і добрага здароўя маладой беларусачцы. **Сябры**

### На выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпель | ам. дал. 500 |
| Др. У. Набагез | 200 |
| З. Смаршчок | 200 |
| Др. Б. і Л. Рагулі | 145 |
| М. і В. Сьнежкі | 100 |
| А. і Н. Сільвановічы | 100 |
| Л. і Л. Літаровічы | 100 |
| Др. А. Занкавіч | 100 |
| Л. і С. Мурог | 100 |
| К. і С. Вініцкія | 100 |
| Н. і А. Жызьнеўскія | 100 |
| В. і Л. Кажан | 70 |
| Др. М. Дэмковіч | 50 |
| М. Грэбень | 50 |
| М. Русак | 50 |
| Л. Норык | 50 |
| К. Акула | 50 |
| А. Монід | 50 |
| А. Шастак | 40 |
| С. Шаўцоў (Аўстралія) | 30 |
| Я. Шымчык | 30 |
| І. Пануцевіч | 25 |
| Л. Бяленіс | 25 |
| М. Мярляк | 25 |
| М. Лужынскі (Аўстралія) | 25 |
| В. Шчэцька | 25 |
| М. Латушкін | 25 |
| С. Шабовіч | 25 |
| У. Траскевіч | 25 |
| М. Сенька | 25 |
| В. Цярпіцкі | 25 |
| Ю. Наумчык | 25 |
| Ю. Касьцюкевіч | 20 |
| М. Швэдзюк | 15 |

### На дзейнасьць Галоўнае Управы БАЗА злажылі ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| К. Рамана | ам. дал. 500 |
| В. і З. Кіпель | 300 |
| А. Шукелойць | 200 |
| А. Рамана | 200 |
| Ф. і В. Бартуль | 200 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

### Фінансавая справаздача за люты-сакавік 1997

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| М. Абрамчык | 60 |
| У. Брылеўскі | 50 |
| П. Бурдзь | 50 |
| М. Міровіч | 50 |
| Я. Сажыч | 50 |
| Я. Язарка | 40 |
| Г. Бахар | 40 |
| У. Гуцько | 40 |
| Н. Касьцюк | 40 |
| У. Пелеса | 40 |
| М. Такушэвіч | 40 |
| Л. Корчык | 30 |
| Ф. Філістовіч | 30 |
| Я. Чорны | 30 |
| Я. Яновіч | 30 |
| Б. Рагуля | 180.68 |
| Г.Д. – Г.Р. — В.Т. – Г.Б. | 100 |
| А. Монід | 100 |
| В. Кажан (заміж кветак на магілу сьв. пам. А. Лашука) | 70 |
| М. Сьнежка (заміж кветак на магілу сьв. пам. А. Лашука) | 50 |
| В. Дубяго | 40 |
| Д. Бажко | 30 |
| Г. Дубяга | 30 |
| Я. Занковіч | 30 |
| А. Непейн | 30 |
| М. Радчанка | 30 |
| Р. Галяк (у памяць Іны Каханоўскай) | 20 |
| Ф. Рабушка | 20 |
| М. Лужынскі | 25 |
| Ю. Ягаўдзік | 40 |
| Я. Ханенка | 40 |
| Г. Сянькевіч | 50 |
| М. Кавыль | 20 |
| М. Яськевіч | 8 |

### Прыслана беспасярэдне у рэдакцыю:

| | |
|---|---|
| В. і А. Шчэцька | 50 |
| Праф. Т. Бэрд | 50 |
| В. і М. Багдан | 50 |
| В. і Л. Ракуць | 50 |
| В. і В. Рамук | 70 |
| В. і Г. Русак | 50 |
| Ю. Рэпэцкі | 35 |
| Др. Я. Лёкэр | 35 |
| М. Латушкін | 50 |
| К. і С. Вініцкія | 25 |
| К. Акула | 25 |
| Я. Юхнавец | 10 |

### Ад супрацоўнікаў Бел. рэдакцыі радыё «Свабода»:

| | |
|---|---|
| С. Абламейка | 30 |
| Б. Андрусышын | 50 |
| К. Бандарук | 50 |
| М. Іваноў | 50 |
| А. Лукашук | 50 |
| Г. Навумчык | 50 |
| А. Радкевіч | 20 |
| С. Сокалаў-Воюш — Аня Бартуль | 100 |
| В. Станкевіч | 100 |
| А. Ціхановіч | 20 |

| | |
|---|---|
| Беларускае Аб'яднаньне ў Заходняй Аўстраліі (праз Алекса Мароза) | ам. дал. 400 |

### На газэту «Беларус» сабраныя ахвяраваньні на адзначэньні 25 Сакавіка ў Нью Брансуіку

| | |
|---|---|
| Др. Юрка Кіпель | ам. дал. 200 |
| В. Заморская | 100 |
| Г. і В. Русак | 100 |
| М.В. | 50 |
| Ст. Тамара | 50 |
| Р. Станкевіч | 30 |
| Л. Норык | 30 |
| В. і Т. Ефрэмкоў | 30 |
| Л. Стагановіч | 25 |
| Ф. і Н. Сільвановіч | 25 |
| Л. Гутырчык | 25 |
| А. Шукелойць | 20 |
| Я. Каханоўская | 20 |
| А. Казак-Пархоменка | 20 |
| З. Кіпель | 20 |
| М. Каранеўскі | 20 |
| А. Субота | 20 |
| С. Азарка | 20 |
| Ю. Касьцюкевіч | 20 |
| А. Сёмуха | 20 |
| К. і М. Верабей | 15 |
| Ю. Зэкоў | 10 |
| С. Капытка | 10 |
| В. Патаповіч | 10 |
| Яп. Э. Рыжны | 10 |
| А. Міцкевіч | 10 |
| а. В. Андрэюк | 10 |